# Кто кого содержит?



НЕ секрет, что даже в нынешних условиях, когда стараниями государства свободная экономика удушается на каждом шагу, определенное расслоение общества все-таки продолжается. Одной из тех категорий граждан, которых традиционно относят к "богатым", являются частные предприниматели. Чаще всего мы контактируем с теми из них, что занимаются торговлей, и поэтому я решил узнать, насколько лёгким и доходным является сейчас это занятие. На рынках часто приходится слышать из уст "лукашенковского электората" в адрес торгующих фразы типа: "спекулянты, торгаши проклятые, ни хрена не делают, а деньги гребут лопатой. Шли бы на завод работать!" Некоторые, может, и пошли бы, но благодаря "продуманной" экономической политике руководства заводы "запущены" до основания. А там, где предприятия постигла "стабилизация и рост производства", — зарплаты едва хватает на хлеб и молоко, да и ждать ее приходится зачастую неделями, а то и месяцами. Поэтому "работа на себя" для многих остается гораздо более привлекательной, чем на государство.

Моя собеседница уже несколько лет трудится в сфере частной торговли. Она согласилась рассказать о том, чего не знают сторонние наблюдатели.

ИТАК, сначала нужно было оформить бумаги и заплатить за само право заниматься торговлей. Все это, естественно, потребовало определенных усилий, времени и средств. На сегодняшний день за право заниматься частной торговлей, а также за свое рабочее место следует отдать немалую сумму. Место на стадионе стоит 1 млн. 100 тыс. рублей в месяц. Чтобы не мокнуть под дождем и снегом, нужна торговая палатка. Она приобретается за отдельную сумму. Далее, фиксированный налог — 760 тыс. рублей. Если доход превышает определенный уровень, то к этой сумме добавляется еще 12% от суммы, превышающий этот уровень. А получаешь ты прибыль или нет —никого не волнует, сначала заплати. Но это еще не все. Заплатив 1 млн. 100 тыс. рублей за место на стадионе, предприниматель не может рассчитывать на нормальное обслуживание. Для того, чтобы попасть в туалет, надо заплатить 500 рублей. Вроде бы мелочь, а неприятно. Один звонок по телефону — 1200 рублей. Получая миллионы с каждого человека, руководство стадиона не брезгует сдирать деньги и за такие услуги, складывая из подобных "мелочей" новые миллионы прибыли.

Товар, естественно, нужно где-то хранить, ведь не каждый станет таскать тяжелые сумки из дома и обратно. В камере хранения одно место — 7 тыс. рублей (сколько сумок — столько мест). Те, кто хранят товар на квартирах в соседних домах, платят по 200-250 тысяч в месяц. За стоянку машины возле стадиона тоже надо платить. Самое интересное, что начальство стоянки ***не гарантирует сохранности имущества!***

Чтобы доставить товар из Москвы, нужно запратить 20-25 S, из Польши — 50-100 S, Турции — 500 S. К стоимости дороги стоит добавить и дополнительные расходы. Например, "за пересечение границы" (чтобы таможня не "трясла" и быстро пропускала), тут уж сумма зависит от случая: кому как повезет. На рынках Польши — полный беспредел. Грабежи и поборы происходят средь бела дня. Бритоголовые "быки", приставляя нож к груди, требуют отдать деньги или забирают вещи. Часто обкладываются данью автобусы — это может произойти и на рынке, и в дороге, и на границе. Местную полицию безопасность приезжих по каким-то причинам не волнует (догадайтесь, почему). Не все в порядке с безопасностью и в Москве, и в Турции.

НАШЕ (наше ли?) государство тоже абсолютно не беспокоится о безопасности своих граждан. Ему некогда, надо парады устраивать. Это "неправильные" американцы авианосцы посылают туда, где кто-либ о обидел их гражданина. А у белорусских (?) властей даже мысли не возникает, что государство для того и предназначено, чтобы всячески защищать интересы своих градан, где бы они не находились.

После дорожных приключений, уже дома начинаются свои. Во-первых, это кражи из автомобилей на стоянке. Во-вторых, это кражи на самом стадионе. "Трясет" торговцев налоговая инспекция. Ежедневно там появляются группы инспекторов из трех районов города и областной налоговой полиции. Лица, носящие гордое название "налоговый полицейский", запоминаются своим крайне неуважительным, часто просто хамским отношением к предпринимателям. Однажды, "высадив десант" на стадион, они устроили натуральный "шмон", который надолго запомнится торгующим. Особенно, надо думать, той девушке, которой они надели наручники. Очень старательные ребята. А чего им не стараться, если власть их и науськивает, дает им карт-бланш на любые жесткие действия по отношению к "частникам"? Иногда прибывающих с товаром из-за границы встречают прямо на вокзалах, чтобы сразу же изъять так. наз. "пошлину на ввоз". Назначают ее, исходя не из реальной, а "таможенной стоимости", т.е. той, которую назовет инспектор. Таким образом, какие-нибудь тапочки за 70 центов по прихоти "встречающих" могут, после пересечения границы, начать стоить 2-3 S. И исходя из такой вот стоимости (иногда в 2-3 раза превышающей реальную) приходится платить эту пошлину предпринимателям на стадионе.

Нельзя иметь при себе личные деньги, — если найдут, будет плохо, последуют карательные санкции. Если не выписал отрывной талон (часто просто не успел, особенно, когда много покупателей) — то можно получить штраф за сокрытие дохода. Минимальная сумма такого "подарка" — 300 тыс. рублей (не считая изъятой суммы "сокрытия"). Возня с этими талонами большая, ведь нужно: брать деньги, давать сдачу, отдавать товар, отвечать покупателям почти одновременно. Причем талон должен заполняться и отрываться до того, как будут получены деньги. Когда клиент уходит примерить вещь, талон также должен заполняться (или отрываться). А если покупатель в последний момент передумает? По словам предпринимателей, все контролирующие органы даже к мелким отклонениям от "порядка" относятся довольно жестко. Чуть что —составляют акт. И, соответственно, — штраф. После нескольких таких вот "залетов" можно лишиться лицензии на право торговли и пойти искать работу на "запущенных" заводах (на радость лукашистам).

Но не только гос. органы мешают работать предпринимателям. Говорят, даже на "Спартаке" бродит доморощенный рэкет, собирая по 20 S с палатки. (А я возмущаюсь бездействием наших властей в деле защиты сограждан от рэкета где-то в Польше!) Получается, что администрация рынка и "правоохранительные органы" не могут обеспечить элементарную безопасность на компактной территории. Поэтому не лишне будет им напомнить, что живут они (и не так уж плохо) во многом за счет денег предпринимателей. На стадионе около 800 палаток. Нетрудно сосчитать, сколько миллионов выходит в месяц. Плюс телефонные, туалетные и входные сборы. Даже с учетом налогов суммы довольно приличные. Вроде бы можно обеспечить нормальные условия для тех, кто платит. Если, конечно, думать про это.

ВСЕ "проверяющие", "руководящие" и "правоохранительные" чиновники кормятся, по крайней мере официально, из бюджета. Однако можно сказать, что они на содержании у предпринимателей: значительную часть бюджета составляют налоговые и другие платежи "частников", как "стадионных", так и остальных. Ведь "запущенная" промышленность лишь требует денег, а не дает их. Ждать поступлений от сельского хозяйства — просто смешно. Остается лишь контрабанда и "свои" коммерческие структуры. Но эти деньги, как известно, в бюджет не поступают. Так что, имея основным источником дохода бюджет, чиновники всех мастей должны были бы быть прямо заинтересованы в увеличении числа богатых, состоятельных людей и в развитии независимых предпринимательских структур. Ведь только в этом случае они могли бы рассчитывать на увеличение жалованья...

Но у нас, при "рыночном социализме", все происходит иначе. "Вертикаль" и всевозможные контролеры могут получать зарплату ***не из бюджета и не гласно*** (таковы, оказывается, результаты "референдума"). Да и без всяких референдумов "руководители" могут сами себя финансировать путем сбора взяток так, что официальное жалованье спокойно пойдет детишкам "на Сникерсы". Поэтому сейчас власть создает как можно больше запретов, указов, инструкций, декретов и т.п., мешающих нормальному функционированию частного бизнеса.

Кстати, то, что нынешняя власть и предпринимательство — вещи несовместимые, понимают не только демократы, но и оппозиционные коммунисты. Самый известный из них — Валерий Щукин, с которым я беседовал во время V съезда БНФ, охарактеризовал режим Лукашенко как колониальный монополистический капитализм, дикий и бесчеловечный. Это означает то, что правящая хунта ведет себя как колонизатор, заинтересованный в сиюминутном набивании карманов народными деньгами. Такая власть оставляет лишь немного крупных, "приближенных к телу" структур, давая только им возможность обогащаться. Даже на рынке заметна такая тенденция: те, кто содержат 5-6 торговых мест, чувствуют себя совсем не плохо и в акциях протеста не участвуют. В целом же предприниматели отмечают, что покупательная способность граждан постоянно снижается. Рынок — самый надежный барометр, точно отмечающий любые изменения в экономике. Есть у людей деньги —больше покупают, денег нет —торговля замирает. Тут ничего не припишешь и команду "увеличить товарооборот" не дашь.

К ЧЕМУ же следует готовиться частным предпринимателям на том же "Спартаке"? По большому счету — к новым "наездам" властей. Как этому можно противостоять? Ответ достаточно банален: бороться за свои права. Надо осознать, что ты — налогоплательщик, и содержишь за свои кровные и налоговую инспекцию, и милицию, и чиновников вплоть до самого главного из них. Который, кстати, нашел такие слова: "вшивые блохи", "жирные коты", "фашисты-лавочники" для тех, кто ничего не просит у государства, да еще платит ему огромные суммы. Чего хорошего можно ждать от власти, большинство представителей которой — выходцы из колхозов-совхозов, воспитанные на лютой ненависти к тем, кто не хочет зависеть от них и называется "предприниматель", если не еще ужасней — "бизнесмен"? Негативное отношение это идет у нас с самого верха государственной пирамиды, хотя оттуда иной раз и раздаются лукавые уверения в поддержке предпринимательства. Тем более, что поддержку регулярно обещают лишь "производителям", но никак не "торгашам". Как будто первые могут существовать без вторых.

Меня могут одернуть: у них, торговцев, денег хватает, пускай платят! Но в любом случае затраты предпринимателей автоматически увеличивают цену товара. Так что чем больше будут они платить, тем больше придется платить и нам при покупке. Так что каждый из нас в принципе заинтересован в том, чтобы издержки торговцев были минимальными. А пока в цену товара входят и налоги, и взятки, и различные поборы. Постоянный рост курса доллара тоже "облегчает" наши карманы. Да и купить валюту сейчас — большая проблема (а при "плохом" Богданкевиче было намного проще), вывезти ее — проблема опять: справку дают лишь на 200 S, причем все данные фиксируются. Короче говоря, все мы связаны с предпринимателями гораздо в большей степени, чем это может показаться на первый взгляд. Им же остается или молча сносить все пакости, устраиваемые властями, постоянно готовясь к худшему, или все-таки объединяться и бороться за свои интересы.

Власть же действует по принципу: молчишь — значит доволен.

**Виталий МАРЧЕНКО, корреспондент ТМ.**

